што польская буржуазія ня так ужо ахвотна йдзе на ахвяры—ня толькі ў імя „ykochanej ojczyzny“, але нават у імя ўласных інтарэсаў. Вялікі капітал, які дагэтуль мог пазволіць сабе на дробнамяшчанскую дэмагогію, стаў моцна бараніцца перад навязываньнем яму патрыатычных цнотаў. Братэрства ў эндэцыі вялікага капіталу і дробнамяшчанства пачало распадацца; у лягеры прамысловасьці і банкаў закіпела. Раздаўся крык аб падкапываньні фундамэнтаў канстытуцыі і ладу Рэспублікі—прыватнай уласнасьці, аб падкапываньні заграмічнага даверыя. „Lewiatan“, лодзінскія прамыслоўцы і банкіры сталі рабіць што-раз мацнейшы націск на ўрад. Багатыя сяляне, нездаволеныя з прыняцьця падатку на грунты, у перададні новых цяжараў—даніны з маемасьці—таксама мелі шмат рамантычнай веры. Становішча заможных клясаў патрасло цэлую будову направы фінансаў.

Аканчальна разьвеяліся дробнамяшчанскія сны, сны парадачнага шляхціца аб ратаваньні бацькаўшчыны цаною ахвяр усіх клясаў. Удавалася яму пры воклясках буржуазіі зваліваць падаткі на працоўную люднасьць, калі-ж асьмеліўся дамагацца ахвяр ад буржуазіі і багатых сялян, пазнаў усю моц клясавых імкненьняў капіталу. Адстаўка Грабскага—гэта далейшая ліквідацыя спадчыны „лявіцовых“ урадаў—сьвядомага ці несьвядомага заціраньня сапраўдных і наймацнейшых клясавых супярэчнасьцей і інтарэсаў. Вялікая буржуазія, якая паступова апаноўвае ўладу, хоча мець на паслуговываньні людзей пэўных, знаючых яе імкненьні і патрэбы, якія ўмеюць абараніць яе ад усіх вынікаў фінансавага банкруцтва.

Дзеля гэтага ўся „лявіца“ пяе элегіі над адстаўкай Грабскага. Ён для яе стаўся, як і легіон вышаўшых у адстаўку генаралаў, шэфаў прасовых аддзелаў, паліцыі дэфэнзывы—сымвалам дэмакрацыі, сымвалам тэй роўнасьці капіталу і работніцкай клясы перад „народам„ і „грамадзкімі правамі“, на якіх сіліцца—безнадзейна—абапёрці сваю сацыяльнўю палітыку.

Перамога капіталу груба стаптала гэтыя ілюзіі, а аднэй з ахвяр ягонай перамогі стаўся пан міністар Грабскі.

„Życ. Rob.“

# Панская гісторыя і яе будучыня.

З давен даўна польскія паны, як і ўсякія паны, езьдзілі на карку бядноты. І калі справа ішла толькі аб панскіх выгадах, польскія паны—каталікі не рабілі розьніцы, ці карак польскі ці ня польскі, ці карак каталіцкі ці некаталіцкі.

З песьняю на вуснах „ешчэ Польска не згінэла“, польскі пан шмуляў бакі бядноце ня толькі беларускай, ці ўкраінскай, ці літоўскай, ці латыскай, але й бядноце польскай.

Не казаў ён польскай бядноце:

— Ах, мая ты родненькая! У нас з табой адна кроў, дык ня буду я шмуляць тваіх бакоў!

Але няпольскую бядноту пан-паляк усё-ж усякім спосабам вярнуў на пальшчызну. Не дзеля таго, што панскі бізун стаў-бы ёй тады смашнейшы, але дзеля той штучкі, якая называецца „панскім патрыатызмам„. А гэта папанску азначала-бы вось што:

— Я пан-паляк, дык і ты, хлопе, будзь паляк!

З малітвай на вуснах да Пана Бога, пан каталік мучыў на прыгоне ня толькі праваслаўнага, ці ўніята, ці евангеліка, але меў у гэтым самым пекле і самага вернага каталіка.

Не казаў ён каталіцкай бядноце:

Ах, мая ты адзінаверненькая! У нас з табой адна вера, дык ня буду я мучыць цябе паншчынай.

Але некаталіцкую бядноту пан-каталік усё-ж усякім способам вярнуў на каталіцтва. Ня дзеля таго, што называецца „панскай набажнасьцяй“. А гэта папанску азначала вось што:

— Я пан каталік, дык і ты, сьмердзя, будзь каталіком!

А былі сярод польскіх паноў і такія „патрыоты“, што дзеля панскай выгады гатовы былі і „ешчэ Польска не згінэла“ перастаць пяяць. Калі царская пасада ў Расеі, а з ёю і панскія выгады сталі хістацца, дык пан-паляк, ды не абы-які, а сам мудры грабя Корвін-Мілеўскі стаў як мага раіць панам палякам у Расеі пяяць „Боже царя храни“.

А якія сярод польскіх паноў ёсьць „каталікі“, хіба кожны з нас добра ведае. Дзікі паганін ня зробіў-бы такога паскудзтва другому паганіну, якое робіць пан-каталік другому каталіку. Вось-жа ведаюць паны-каталікі, што беларускія сяляне-каталікі гавораць пабеларуску, хочуць мець болей зямелькі і г. д. Дык узялі-б дый дзеля сваей каталіцкасьці ня гналі-б іх гвалтам у польскія школы аддалі-б ім самахоць зямельку і г. д. Дзе там! І якраз тыя палякі, праўдзівыя сацыялісты, якіх паны лаюць бязбожнікамі, анцыхрастамі, робяць у гэтай справе больш „пабожаму“ ці „пахрысьціянскаму“, чым самы пабожны пан.

Як бачым, у справе веры, справядлівасьці, пашаны да чужога права паны пакручваюцца, як той сабачы хвост. Дзе мая панская выгада—там і справядлівась, і права, і закон.

Урэшце робяць гэта і з навукаю.

Так прыкладам, панская газэта „Dziennik Wileński“ у № 151 з 11 ліпеня г. г. зьмесьціла артыкул „Беларусь і яе гістарычная мінуўшчына“, у якім піша так:

„Польскае госпадарства ў цяперашніх сваіх граніцах ня мае ані акрапка земляў, уважаных калі-небудзь за Беларусь“.

„Беларусь трэба шукаць не каля Горадні ці Наваградку, не каля Вільні ці Беластоку, а за граніцаю: у Полацку, Менску, Віцебску ці Смаленску. З гэтага боку кардону ёсьць толькі Польшча!“

Здавалася-бы, што кожны чалавек, хоць троху знаёмы з гісторыяй, географіяй і этнографіяй, прачытае гэты панскі артыкул, вясёла скажа; „Ну й напісаў панок лухту!“—і годзе. Ні тут спрачацца, ні тут што...

Але справа ня ў тым. Пан які напісаў гэты артыкул, гуляе для сваіх мэтаў словам „Беларусь“, як добры жулік гуляе фальшывымі картамі. А развагі яго зводзяцца вось да чаго: раз слова „Беларусь“ мела ў гісторыі іншае значэньне, чым тое, якое надаюць яму цяпер, дык што там цэрамоніцца: глытай „з гэтага боку кардону“ беларусаў жыўцом!

На што-ж гэта ён робіць?

Можа дзеля таго самага, дзеля чаго калісь слабенькія камуністы даводзелі, што ні ў Полацку, ні ў Віцебску, ні ў Смаленску ніякай Беларусі няма? Тыя камуністы, найбольш родам латышы, расейцы, палякі, жыды, а нават зьнебеларушчаныя беларусы, якія разьбіраліся ў нацыянальным пытаньні і яго ролі рэвалюцыі, як пэўная жывёла знаецца на апэльцынах, хацелі быць большымі камуністамі, чым сам Ленін і Троцкі, са словам „беларускі адраджэнец“ зьвязвалі слова „нацыяналіст“ і „буржуй“ і да беларускай культуры адносіліся з няменшай пагардай, чым польскія паны.

О, не! Камуністы гэтыя апроч правакатара паляка Ленкевіча, калі ён там быў, абмылкова думалі, што змаганьне з беларушчынай вымагаецца ад іх ідэяй інтэрнацыяналу і варожай для іх дзеяльнасьцю буржуазных беларускіх нацыяналістаў.

І хоць яшчэ на пацеху панам і на аслабленьне сацыялістычнае беларускае пазыцыі супроць пазыцыі палякуючых буржуазных беларускіх нацыяналістаў значная часьць Усходняя Беларусі і дагэтуль знаходзіцца ў Маскоўскай, а не Беларускай Савецкай Рэспубліцы, аднак многа ўжо памылак, зробленых тымі камуністамі, папраўлена, а некаторыя маюць быць папраўлены ў бліжэйшым, як чуваць, часе. Прынамся, як жарт трэба адзначыць, што аўтарам „Кароткага нарысу гісторыі Беларусі“, з паводу якога „Dziennik Wileński“ так прычапіўся да слова „Беларусь“, зьяўляецца якраз той самы вядомы прафэсар Ў. Ігнатоўскі, які зьяўляецца і вядомым беларускім дзеячом — камуністам! І ён-то ўжо, мусіць, не павінен у так выгодным для паноў закідзе, што Полацак, Віцебск і Смаленск далучаны камуністамі да Савецкай Маскоўшчыны, а не да Савецкай Беларусі.

На думцы ў польскага пана, калі ён радзіць шукаць Беларусь за кардонам сучаснае Польшы, ёсьць нешта зусім другое.

Справа ў тым, што польскім панам, як і ўсякім панам на цяперашнім сьвеце, ўсё больш і больш муляецца той карак, на якім яны, як у добрым сядле, ехалі спрадвеку...

Нават самая цёмная, цярплівая і зьняможаная бядната брыкаецца, становіцца на дыбкі і наагул болей ня хоча везьці на сабе паноў.

— Годзе, кажа, табе, яснавяльможнае панства, уважаць мяне за сваё быдла! Зьлезь ты з майго карку, ато гэтак кіну, што й ногі задзярэш і зубоў не пазьбіраеш!“

І польскія паны гэта добра разумеюць.

Бо што-ж: у Літве іх з сядла зсадзілі, у Латвіі (ўласна ў Латгаліі) так-сама, ў Галічыне зрабілася так мулка як на нажах, а Усходняя Беларусь і Украіна прапалі, мусіць, навекі, граніцы 1772 г. у Рызе ляпнулі. У самай Польшчы яшчэ так сяк вядзецца пакуль што: народ свой троху атуманілі нацыяналізмам, троху пацешылі абецанкай — цацанкай асадніцтвам на Крэсах... Але вось бяда, што й „Крэсы“ робяцца няпэўнымі. З тых самых „акрапкаў“, дзе па гісторыі ніякай Беларусі няма прыслалі ў Сойм і Сэнат цэлую пачку беларусаў і o rety! — у гэтай пачцы ці ня болей „каталікоў“, адзін нават для большага перапуда паном скрыў сваё „бальшавіцкае цела“ пад самую запраўдную ксяндзоўскую каталіцкую сутану! У Горадні папалі (праўда аднаго з іх ужо ўсадзілі „до козы“), і з Беластоку ёсьць (так-сама ўсадзілі), і з Навагрудку, і з Вільні... усіх і ня ўсадзяць. І ў самым Беластоку прышлося судзіць цэлую табалу ня толькі за кніжныя гістарычныя развагі аб слове „Беларусь“, але за доказы гэтага слова крывавай гісторыяй гэтых дзён!

А што, разважаюць польскія паны, калі наша падатлівая соймовая лявіца возьме ды й дасьць беларускую аўтаномію там, дзе па гісторыі і акрапкаў Беларусі ня значны? А што, калі беларусам і гэтага будзе мала? Хто-ж ведае — апэтыт прыходзе ў часе яды. Прапала тады з пад панскіх храсткоў беларуска-мужыцкае сядзельца. Бо зьбярущца яны ў сваім аўтаномным ці якія там Соймы — усё мужыкі, хамы і скажуць па мужыцку: „А ну-тка, пан, кончылася старая гісторыя!“ І вось паны загадзя схапіліся за старую гісторыю і крычаць: няма Беларусі! Дзе-ж тут быць Беларусі? Нам ня выгадна, каб гісторыя казала аб Беларусі! Далоў беларускую гісторыю камуніста Ігнатоўскага! Хай жыве Польская панская гісторыя! І крычаць, надымаюцца аж пакуль ня покнуць.

**Казімер Сівы.**

# „Гданскі марш“.

У сучасны мамэнт у Жэнэве адбываецца чарговая сэсыя Рада Лігі Нацый, на павестку якой пастаўлена рад вельмі важных і цікавых і для нас пытаньняў.

Да гэткіх у першую чаргу трэба залічыць польска-гданскі конфлікт, вынікі якога часткова ўжо выявіліся ў надта цяжкай форме для абодвых бакоў, часткова могуць выявіцца ў форме і разьмерах, якія нават трудна прадбачыць.

Мы ведаем, што польска-гданскі канфлікт настолькі за апошні час абастрыўся, што сам міністар заграмічных спраў п. Сэйда, зусім неўспадзеўкі для



міністра фінансаў заявіў, і не без падставы, што самай важнай прычынай спадку польскай маркі (ня лічучы, пэўна-ж, прысутнасьці самога п. Сэйды ў кабінэце) зьяўляецца тое, што міжнародная фінансэрыя паверыла ў агрэсыўныя намеры Польшчы адносна да Гданску“... Альбо, як хтось-ці з кабінэту сказаў яшчэ прасьцей,—што „Польшча памашыруе на Гданск“... выпаўняць Вэрсальскі трактат на месьце...

Як заўсёды гэткае ўрадовае аб'ясьненьне, хоць за ім зараз-жа зьявілася гэткае-ж аўтарытэтнае апраўярджэньне, мела як найгоршыя вынікі... Тон, якім міністар Сэйда трактаваў ня толькі Сэнат Вольнага Гораду і стаяўшага на яго баку Высокага Камісара Лігі Нацый, але і стаяўшую за апошнім самую Лігу Нацый,—ясна паказывае, што „зрабіць музыку“ да гэтага „маршу на Гданск“ было для гэтага „тону“ самая лёгкая справа...

Міністар Сэйда, а за ім і ягоны офіцыоз „Gaz. Warszaw.“ абвесьцілі „Новы курс заграмічнай палітыкі Польшчы. „Gaz. Warszaw.“ кажа, што мова, якой загаварыў новы міністар загран. спраў прынцыпіяльна розніца ад тэй, якой гаварылі кіраўнікі гэтай палітыкі за ўвесь 4-х гадовы пэрыад усіх кабінэтаў левіцы“...

Зусім справядліва „Kurjer Polski“ кажа, што новага ў гэтай новай палітыцы новага міністра толькі і ёсьць, што „тон“ і мова, якою ён гаварыў у сваіх абодвых экспозэ—ў Сойме і Сэнаце. Але мы ведаем, што ў дыплёматыі „мова“ і „тон“ маюць запраўды прынцыповае значэньне... Ветлівасьць дыплёматаў увайшла ў прыказку... Слоўнік і фразеолёгія гэтай дыплёматычнай мовы наказуе вельмі асьцярожна падбіраць выразы, дакладна адпавядаючыя тым асобам і установам, аб якіх ідзе мова...,

І калі новы міністар пан Сэйда; па удачнаму выражэньню „Kurjera Polsk.“ зьмешывае нявэтлівасьць выражэньняў з іхнай сілай“, дык зусім ясна, што ён ня знае нават элемэнтарнага слоўніка тэй мовы, на якой бярэцца гаварыць, пры гэтым гаварыць так моцна, каб яго было чуваць усюды ў Эўропе. Адгэтуль ясна, што новы міністар „zasadniczo“ неграматны дыплёмат, і так сама „zasadniczo“ дрэнны міністар заграмічных спраў. Ен, як і трэба „эндэку“ ведае і разумее толькі адну мову эндэцка-польскую, а ўсе іншыя мовы, у тым ліку і дыплёматычную — начыста адкідае...

Вынікі такіх адносін Польшчы да другіх моваў у Лізе Нацый, да якой цяпер ідзе Польшча, таксама лёгка прадбачыць, як ўва ўсіх другіх выпадках адносін Польшчы да мовы таго ці іншага асобнага народу, якому давялося спатакацца з гэтай „сувэранасьцю“ Польшчы.

У Лізе Нацый Польшча цяпер павінна здаць экзамін з „новага курсу“ сваей заграмічнай палітыкі...

Паглядзім цяпер у чым-жа істасьць польска-гданскай спрэчкі і паслухаем, якая гэтая новая мова, на якой загаварыў з Лігай Нацый г. ё. з усімі аб'еднанымі ў Лізе Нацый дзяржавамі,—з найбольшай маральна-палітычнай установай і аўтарытэтам на зямной кулі... новы міністар Польшчы, атрымаўшы такую моцпую і грозную апору ў „сталай чыста-польскай большасьці“... аднаго голасу ў Сойме.

Выносячы, спрэчку Польшчы з Гданскам на вырашэньне высокага арбітра, міністар Сэйда ня толькі перад гэтым публічна перад эўрапэйскай трыбунай вылаяў свайго праціўніка, як сьлед, але за адно ашэльмаваў і самую Лігу Нацый.

Сутнась спрэчкі, якую ўжо ня першы год вядзе Польшча, міністар Сэйда выкладае вось як: §§ 100—108 Вэрсальскага Трактату стварылі концэпцыю Вольнага Гораду Гданска **выключна** для таго толькі, каб Польшча мела зусім вольны доступ да мора, незалежны ні ад якай іншай улады. Дзеля гэтага Гданскі порт быў **аддадзены ў беспасрэднае карыстаньне Польшчы**. З прынцыповага права на порт выцякаў цэлы рад другіх правоў па інтэрвэнцыі Польшчы ўва ўнутраныя справы Гданску: права на будову неабходных будэваў, над'ездных шляхоў, транзыту, гандлёвых і ўсялякіх іншых прывілеяў па ўвозу і вывазу. Раз „хінтэрляндам“ для гданскага порту зьяўляецца Польшча, дык уся концэпцыя „Польскага Гданска“ зьяўляецца зусім выразнай.

І запраўды гэткая концэпцыя, нібы-то падцьвярджаецца ўключэньнем гораду Гданску ў тамажэную сфэру Польшчы.

Калі-ж прыняць пад увагу, што порт ёсьць ня толькі цэнтр, **самае сэрца** гор. Гданску, дык адгэтуль зусім ясна, што права на порт зусім зьліваецца з правам на ўвесь жывы арганізм Гданску разам з належачай да яго тэрыторыі... Вэрсаль забіў Данцыг і ўваскрэсіў з мёртвых Гданск.

Але той самы Вэрсальскі трактат і уложаная ў духу“ яго Парыская Конвэнцыя зрабілі Гданск Воль-

